# БЕЛАРУСЫ Ў СВЕЦЕ



№2 (225)
люты 2021

Інфармацыйны бюлетэнь • Міжнароднае грамадскае аб’яднанне “Згуртаванне беларусаў свету “Бацькаўшчына”

**У НУМАРЫ:**

## “Кожны, хто з’ехаў, урэшце павінен вярнуцца”

Беларус з Байкала Алег Рудакоў праз 35 гадоў наноў абжываецца ў бацькоўскай хаце.

Старонка 4

## “СЛОВЫ МАЦНЕЙ”

Новы відэапраект ад кампаніі “Будзьма беларусамі!”, Саюза беларускіх пісьменнікаў і Беларускага ПЭН-цэнтра.



Сучасныя дзеячы культуры, якія пацярпелі ад пераследу і ўціску за культурніцкія акцыі пасля выбараў прэзідэнта 2020 года, чытаюць творы сваіх папярэднікаў, асуджаных у сталінскія часы.

Як гэта ні жахліва, але паміж лёсамі творцаў у 1930-я гады і ў 2020-м ёсць пэўная аналогія. .

Ва ўмовах пандэміі COVID-19 Згуртаванне беларусаў свету “Бацькаўшчына” працягвае сваю працу, але, выконваючы рэкамендацыі СААЗ, у рэжыме самаізаляцыі.

Беражыце і вы сябе таксама!
#будзьмадома



# Яўген Вапа: ЗАКЛІКАЕМ НАШУЮ СУПОЛЬНАСЦЬ ЗАПІСВАЦЦА БЕЛАРУСАМІ

1 красавіка ў Польшчы распачынецца Нацыянальны перапіс насельніцтва і жытла па стане на 2021 год. Грамадзяне Беларусі, якія пражываюць на тэрыторыі Польшчы, таксама мусяць узяць удзел у перапісе. Падчас перапісу рэспандэнты павінны адказаць на пытанні нацыянальнай прыналежнасці, мовы і веравызнання. Пра асаблівасці перапісу беларусаў у Польшчы распавёў старшыня Беларускага саюза ў Польшчы, галоўны рэдактар “Беларускага Радыё Рацыя” Яўген Вапа.

**Яўген Вапа:** Перапіс насельніцтва, які адбываецца кожныя дзесяць гадоў у Польшчы, павінен паказаць, якія змены адбыліся ў дэмаграфічна-сацыяльнай структуры польскага грамадства. У той жа структуры існуем мы, як беларуская нацыянальная меншасць. І мы заўсёды перад перапісамі заклікаем нашую супольнасць запісвацца беларусамі. І гэта вельмі важна зараз, калі наступілі два выразныя працэсы ў жыцці беларускай нацыянальнай меншасці ў Польшчы – гэта выміранне значнай часткі нашага арэалу цягам апошніх дзесяці гадоў і, па-другое, рассяленне сярэдняга і маладога пакалення па тэрыторыі ўсёй Польшчы і Еўропы. І таму вельмі важны перапіс насельніцтва праз інтэрнэт. І каб людзі, якія выехалі, запісалі сябе беларусамі. Сёння вельмі важныя формы заахвочвання – радыё, тэлебачанне, традыцыйныя лістоўкі. Таму я заахвочваю ўсіх запісацца беларусамі. Бо бачым працэсы моўнай асіміляцыі, якія наступаюць у нашым грамадстве. Гэта не азначае, што калі мы не размаўляем па-беларуску, мы не ёсць беларусамі. Таксама ў выніку змешаных шлюбаў маем рознае стаўленне да вызначэння нацыянальнасці ў дзяцей. Ці будзе магчымасць, як у мінулым перапісе, запісаць прыналежнасць да дзвюх нацыянальнасцяў з дамінуючай першай? Гэта істотная справа. За дзесяць гадоў паменшылася колькасць людзей, якія запісалі сябе беларусамі. На жаль, дэмаграфічныя працэсы паказваюць, што тэндэнцыя працягнецца.

**РР: Пасля жнівеньскіх падзей адбываецца вялікі прыток беларускага насельніцтва на тэрыторыю Польшчы. Які будзе прырост беларускага насельніцтва?**

**Яўген Вапа:** Залежыць ад таго, кім людзі сябе назавуць. На жаль, часта маем справу з тым, што людзі ідэнтыфікуюць сябе з дзяржавай, у якой жывуць. Але жнівеньскія падзеі выразна ўзмацнілі адчуванне сябе беларусамі людзей, якія знаходзяцца на этапе атрымання польскага грамадзянства. Трэба памятаць, што нацыянальныя меншасці, паводле польскага заканадаўства, – гэта тыя, хто пастаянна жыве ў краіне цягам 100 гадоў. Таму мы ёсць беларусы – як нацыянальная этнічная меншасць, бо гэта вынікае з заканадаўства. Мы не былі ні эмігрантамі, ні перасяленцамі. Мы стагоддзямі пражывалі на гэтай зямлі як беларусы. І мы на “Радыё Рацыя” будзем інфармаваць нашых слухачоў пра ўсе пытанні і праблемы, звязаныя з перапісам.

Нацыянальны перапіс насельніцтва і жытла ў Польшчы будзе праводзіцца з 1 красавіка па 30 чэрвеня 2021 года. Такі перапіс праводзіцца ў краіне кожныя 10 гадоў.

**Вольга Сямашка, “Беларускае Радыё Рацыя”**

навіны

# Генадзь Вінярскі: ПРАЦУЕМ ПРАЗ ДЗЕНЬ, ПЕРАБІВАЕМСЯ АДНЫМ КАМП'ЮТАРАМ

Генадзь Вінярскі аб дзейнасці "Кнігазбору" пасля візіту ДФР



Пасля таго, як 13 студзеня ў офіс "Кнігазбору", а таксама дадому і ў гараж яго кіраўніка Генадзя Вінярскага прыйшоў ДФР, работа выдавецтва аказалася амаль паралізаванай. Цяпер "Кнігазбор" можа хіба прадаваць свае ранейшыя выданні і чакаць вырашэння сітуацыі.

Генадзь Вінярскі кажа, што наведванне ДФР несумяшчальнае з паўнавартаснай працай. У выдавецтве забралі сістэмны блок, тэлефон і кнігі – 558 асобнікаў "Рэвалюцыі" Віктара Марціновіча. "Гэта ўсе, што былі, узялі нават бракаваныя".

Апроч гэтага, у "Кнігазбора" арыштаваны рахунак, што значыць немагчыма плаціць ні друкарні, ні людзям, датычным да працы над выданнямі. "Нават калі грошы прыходзяць, мы імі не можам карыстацца, а значыць, фактычна не можам працаваць".

У выдавецтве чатыры супрацоўнікі – цяпер яны працуюць "павольна і няўпэўнена", прыходзяць у офіс праз дзень і перабіваюцца адным камп'ютарам. "Адзінае, што мы яшчэ можам, – адпускаем кнігі, якія выйшлі раней. А ў цэлым чакаем нейкага рашэння. Мы напісалі ў ДФР ліст з запытам пра тэрміны, але на яго яшчэ не адказалі. Не ведаем, што будзе далей".

Генадзь Вінярскі кажа, што аб прычынах такой зачысткі можа толькі здагадвацца, але адзначае, што зачышчаецца менавіта "беларускамоўнае асветніцкае поле".

"Магчыма, яны думалі, што праз наша выдавецтва ішла нейкая дапамога на аплату штрафаў ці яшчэ што, бо разам са мной у той дзень узялі журналіста Андрэя Аляксандрава, якому гэта прад'явілі. Але ў нас нават няма валютнага рахунку, кнігі мы друкуем выключна ў Беларусі. А можа, шукалі, хто друкуе налепкі ў бела-чырвона-белых колерах, бо падчас агляду пыталіся пра тую, што была ў нашым офісе, – але ж мы выдавецтва, а не друкарня. Я шчыра не разумею, што гэта было, мы заўжды працуем у прававым полі".

Нагадаем, праз два дні пасля візіту ў "Кнігазбор" ДФР прыйшоў таксама па кнігараспаўсюдніка Алеся Яўдаху і выдаўца Андрэя Янушкевіча.

Цяпер "Кнігазбору" ды іншым дзеячам кніжнага рынку, што зведалі ціск, можна дапамагчы, набываючы іх кнігі.

nn.by

# Алена Анісім: НА ТЫМ БАКУ ДЗЕЙНІЧАЮЦЬ АНТЫБЕЛАРУСКІЯ СІЛЫ

Старшыня Таварыства беларускай мовы Алена Анісім пракаментавала магчымасць прызнання бел-чырвона-белага сцяга экстрэмісцкім.



**Алена Анісім:** Шчыра кажучы, яшчэ год таму ніхто не мог і падумаць, што бел-чырвона-белы сцяг могуць прызнаць экстрэмісцкім. Іншая справа, што трывожныя званочкі ўжо былі раней. Калі гербу "Пагоня" надалі статус гісторыка-культурнай каштоўнасці, то бел-чырвона-белы-сцяг такі статус не атрымаў, нягледзячы на розныя захады грамадскасці. Акадэмія навук выступіла супраць і ўжо гэта павінна было насцярожыць.

З іншага боку не чакалася, што гэта дойдзе да такой сітуацыі, калі не толькі-бел-чырвона-белы сцяг акажацца пад забаронай, а нават такое спалучэнне колераў на вопратцы, на вокнах ці нават на снегавіку. Гэта да такой ступені ім ненавісныя гэтыя колеры!

З аднаго боку гэты сцяг сімвалізуе сумленнасць і дэмакратыю, гэта сімвал перспектывы развіцця Беларусі. Адпаведна робяцца ўсе захады, каб забараніць яго, ідзе перaслед усёй такой жа каляровай гамы. Гэта сведчыць пра тое, што на тым баку дзейнічаюць антыбеларускія і антынацыянальныя сілы.

**РР: Мяркуеце, што бел-чырвона-белы сцяг усё-такі прыраўняюць да экстрэмісцкай сімволікі?**

**Алена Анісім:** Пакуль мне складана зразумець, якая сёння раскладка сілаў у тых, хто пры ўладзе. Думаю, нават у найбольш адданых рэжыму асоб не ўсё пакуль страчана і згублена ў плане стаўлення да нацыянальнага, нягледзячы на тое, што многія робяць проста абсурдныя заявы.

Можа быць, яны будуць супраць таго, каб прымаць такога роду законы, і прызнаваць бел-чырвона-белы сцяг экстрэмісцкім. Тым не менш, нельга быць на 100 адсоткаў упэўненым, што здаровы сэнс возьме верх. У нашай краіне здаровы сэнс апошнім часам грае вельмі малую ролю.

Кастусь Заблоцкі, "Беларускае Радыё Рацыя"

**гутарка**

# Мікола Купава: бел-чырвона-белы сцяг непадсудны, гэта прызнаны народам нацыянальны сімвал

Генеральная пракуратура Беларусі паабяцала прызнаць бел-чырвона-белы сцяг экстрэмісцкай сімволікай. Нібыта ідучы насустрач "неабыякавым грамадзянам", якія звярнуліся ў гэта ведамства з адпаведным хадайніцтвам. Мы вырашылі пацікавіцца, як да такой ініцыятывы ставіцца Мікола Купава – аўтар эталона дзяржаўнага бел чырвона-белага сцяга, прынятага Вярхоўным Саветам у 1991 годзе. Тым больш для нашай сустрэчы была яшчэ адна, куды больш прыемная, нагода – 75-годдзе мастака.



**– Спадар Мікола, найперш скажыце, як вы сябе пачуваеце пасля перанесенага ў снежні каранавіруса? Здаецца, і ў бальніцы давялося паляжаць?**

– Так, у мінскай шостай бальніцы, якая пераабсталявана пад каранавірусных пацыентаў. Цяпер пачуваюся нармальна. Мне пашанцавала, што я не запусціў хваробу: патэмпературыўшы некалькі дзён, выклікаў "хуткую" і адразу трапіў у бальніцу. Дзякуй дактарам, там было вельмі добрае лячэнне, кіслародныя апараты даступныя. Палячыўся, падыхаў кіслародам два тыдні, а потым мяне завезлі ў Аксакаўшчыну на падмацаванне. Арганізм цалкам аднавіўся. Пакуль я лячыўся, сын перахварэў дома. Таксама, здаецца, без наступстваў.

**– Я застаў вас за працай. На мальберце – нейкая старасвецкая бітва вымалёўваецца. Што за баталія?**

– Бітва пад Хацінам 1621 года, дзе сустрэліся войскі Польшчы і Вялікага Княства Літоўскага, з аднаго боку, і турэцка-татарская армія – з другога. Аб'яднаным войскам кіраваў наш суайчыннік вялікі гетман Ян Караль Хадкевіч – і разбіў туркаў. Сёлета мы адзначаем 400-я ўгодкі той бітвы. Восенню мы, мастакі, плануем зладзіць выставу, запрасіўшы палякаў, украінцаў і літоўцаў. Значэнне Хацінскай бітвы не меншае, чым Грунвальдскай, уся Еўропа тады з палёгкай уздыхнула. Тагачасны Папа Рымскі нават распарадзіўся штогод служыць у касцёлах імшу ў гонар перамогі Хадкевіча, і яна служылася – па ўсёй Еўропе – аж да канца XIX стагоддзя.

**– Над войскам Яна Хадкевіча відны бел-чырвона-белыя сцягі, якія Генеральная пракуратура Беларусі днямі паабяцала прызнаць экстрэмісцкімі і фашысцкімі. Калі будзе прыняты адпаведны заканадаўчы акт, за выкарыстанне сцяга будзе ўведзеная крымінальная адказнасць. Як вы да гэтага ставіцеся?**

– Як да нябачанага дасюль дурноцця. Як можна забараніць сцяг, за якім – стагоддзі гісторыі? Пры чым тут нейкія немцы, пры чым паліцаі? Упершыню бел-чырвона-белы сцяг з'явіўся на гравюры 1444 года! На той гравюры – бітва з туркамі пад Варнай, у якой таксама ўдзельнічалі войскі ВКЛ. Бел-чырвона-белыя сцягі масава паказаны на славутай карціне "Бітва пад Оршай 1514 года". У 1917-м, яшчэ да абвяшчэння БНР, вайскоўцы- беларусы былой царскай арміі ўпрыгожвалі свае мундзіры бел-чырвона-белымі стужкамі і значкамі. Таму Клаўдзій Дуж-Душэўскі ў 1918-м, ствараючы сцяг для БНР, нічога не выдумляў, ён проста ўзяў правераны стагоддзямі сімвал. Помню, як у 1990 годзе ў Полацку ўладыка Філарэт па нашай просьбе ўрачыста асвяціў бел чырвона-белы сцяг, які праз год стаў дзяржаўным. Бел-чырвона-белыя палоскі, якія сімвалізуюць кроў Хрыста, абавязкова прысутнічаюць на епіскапскім аблачэнні. Дык што, Генеральная пракуратура цяпер і Хрыста будзе судзіць?!

**– Пракуратура тлумачыць, што з просьбай прызнаць нацыянальны сцяг экстрэмісцкім да яе звярнуліся "100 неабыякавых грамадзян". Але толькі за адны суткі петыцыю ў абарону сцяга падпісалі 50 тысяч чалавек.**

– Гэта яшчэ раз сведчыць, што бел-чырвона-белы сцяг прыняў увесь народ. Генеральная пракуратура павінна зразумець, што нашы нацыянальныя сімвалы непадсудныя, яны аб'ектыўна існуюць у нашым жыцці незалежна ад палітычнага надвор'я на вуліцы.

**– Вы ж аўтар эталона дзяржаўнага бел-чырвона-белага сцяга. Помніце, як ён ствараўся?**

– Як такое забудзеш? У параўнанні з працай аўтара эталона дзяржаўнага герба мая была больш сціплай – трэба было выбраць дакладны чырвоны колер (ён жа мае розныя адценні) і вызначыць прапорцыі шырыні тканіны ды яе даўжыню. Помню, як да нас у камісію Вярхоўнага Савета прыходзілі спецыялісты з Мінскага камвольнага камбіната, усё ўдакладнялі, каб тут жа запусціць сцягі ў вытворчасць. Іх жа для ўсёй краіны патрэбна было безліч.

**– Нядаўна ў букіністычнай краме мне трапілася на вочы аздобленая вамі кніга для дзяцей "Сіняя світа налева пашыта". Я звярнуў увагу, што на малюнках там някідкія, але заўважныя бел-чырвона-белыя сцягі, а год выдання – 1986. Як вам удавалася нават у савецкі час прапагандаваць нацыянальную сімволіку?**

– Вось жа неяк удавалася. Што да згаданай вамі кніжкі, то там была цэлая гісторыя. "Крамолу" на яе старонках заўважыў сам загадчык аддзела культуры ЦК КПБ Іван Антановіч (а ён за ўсімі ідэалагічнымі праявамі вельмі пільна сачыў) і даў каманду зняць кніжку з продажу. Ёю займалася адмысловая камісія, куды мяне выклікáлі. І так сталася, што на мой бок сталі гісторыкі, растлумачыўшы парторгам розных узроўняў, што ніякага супярэчання гістарычным фактам на малюнках яны не бачаць.

**– А кніжку ў продаж вярнулі?**

– У кнігарнях я яе больш не бачыў. Частку накладу, відаць, пусцілі пад нож. Але няма ліха без дабра. Маёй "Сіняй світай…" зацікавіліся ў… Індыі. Індусам спадабалася кніжка, і яны тут жа, у Беларусі, заказалі яе перавыданне па-англійску – для замежжа. З шыкоўнай паліграфіяй. Тут ужо Антановіч умяшацца не мог. Помню, як да мяне прыбег мастак Генадзь Сокалаў-Кубай: "Мікола, твая "Сіняя світа…" прадаецца ў "Цэнтральнай" кнігарні". Я хуценька паехаў і набыў цэлы пакунак. Так што Індыя паспрыяла, каб наш сцяг пабачылі ва ўсім свеце.

**– Відаць самы тыражаваны ваш твор – гэта выява Пагоні на фоне бела-чырвона-белага сцяга, змешчаная на канверце яшчэ савецкага часу ў 1990 годзе. Мільённы наклад! А ў гэтым выпадку хто паспрыяў?**

– Гэты канверт выйшаў у свет па ініцыятыве геральдыста Анатоля Цітова, светлая яму памяць.

Працяг на старонцы 7.

гутарка

# Алег Рудакоў: кожны, хто з'ехаў, урэшце павінен вярнуцца

Беларус з Байкала Алег Рудакоў праз 35 гадоў наноў абжываецца ў бацькоўскай хаце.

Былы вайсковец, гісторык, этнограф, адзін з найболып вядомых дзеячоў беларускай дыяспары Алег Рудакоў вярнуўся на радзіму. Абжываецца ў бацькоўскай хаце, якую пакінуў 35 гадоў таму. Пра ягоную гісторыю наш рэпартаж з вёскі Бяздзедавічы на Полаччыне.

Гаспадар за звыклым зімовым заняткам – сячэ калуном альховыя кругляки. Каб у дзедавай хаце было цёпла, печы мусяць быць загружаныя. Папоўніўшы дрывотню, узяў рыдлёўку і рушыў на гарод – прадэманстраваць, як даўней беларусы карысталіся прыроднай лядоўняй. Адкінуўшы снег і цырату, накапаў вядро свежай морквы.

### "Некалі ганялі ў поле чатыры статкі, а цяпер адна карова на ўсё наваколле"

У родныя Бяздзедавічы Алег Рудакоў прыехаў не адзін. На кухні завіхаецца маладая жонка. У канцы мінулага года ў Іркуцку пабраўся шлюбам з магістаркай псіхалогіі Воляй Галанавай – паплечніцай і партнёркай у справе беларушчыны, якой яны ахапілі ўсё Прыбайкалле. І яна, і яе бацькі нарадзіліся ў Сібіры, а вось прабабчына і прадзедава лініі бяруць пачатак на Віцебшчыне і Магілёўшчыне. Драматычную гісторыю яе сям'і расказвала Свабода.

У той час, як беларусы масава з'язджаюць з прычын няўпэўненасці ў будучыні, адваротная рэлакацыя, ды яшчэ з паляпшэннем дэмаграфічнай сітуацыі, здаецца не зусім своечасовай. Алег Рудакоў з гэтым не згодны.

"Першае і самае галоўнае: я марыў вярнуцца з таго самага моманту, як адсюль з'ехаў. Калі жыў у Цюмені, потым у Іркуцку, разважаў так: адной нагой я ў Сібіры, але другой усё ж у Беларусі. Нават не ўзнікала такога пытання – будуць для гэтага ўмовы ці нешта не складзецца. І вось я тут, дакладней мы, – усміхаецца ён. – Быў даўнейшы план. Ну, і сямейныя абставіны прыспешылі: пагоршыўся стан здароўя маці, трэба быць бліжэй, не за 6 тысяч кіламетраў. А самае галоўнае – гэта мая радзіма, і я хачу тут жыць".

Вёска Бяздзедавічы некалі была шматлюднай і складалася з двух "канцоў": гістарычная частка вакол маёнтку паноў Корсакаў – і новая, заснаваная з пачаткам калектывізацыі. Цяпер бальшыня дамоў у лепшым выпадку выкарыстоўваюцца як лецішчы, а то і проста стаяць занядбаныя.

"Неяк сабраліся з хлопцамі і вырашылі палічыцца: колькі ж нас? – згадвае падлеткавую пару Алег Рудакоў. – 43 толькі майго ўзросту! Гэта без старэйшых і малых, ну і без дзяўчат. Жыццё было вельмі насычанае: ганялі на мапедах і роварах, гулялі ў валейбол і хакей. Тое самае з жыўнасцю. У маё дзяцінства былі чатыры чарады кароў па 30–40 галоў у кожнай! А цяпер на ўсё наваколле – адна карова! Моладзі няма, старыя паміраюць. На жаль, шмат якія хаты пустуюць, або пакуплялі чужыя людзі пад лецішчы. Пастаянна жывуць літаральна адзінкі".

### "Апантаны задумай зрабіць музей-майстэрню і назваць "Сядзіба Рудаковых"

Апошнім часам без належнага догляду стаяў і дом Рудаковых. Бацькі не стала ў 2013-м; маці трымалася да апошняга, але цяпер адна не ўпраўляецца, і на зіму яе забіраюць унукі. Брат і сястра маюць жытло ў Полацку, хату выкарыстоўваюць




больш як склад для рэчаў, якія шкада выкінуць, бо "могуць яшчэ спатрэбіцца". Ну і, безумоўна, карыстаюцца садам – тут яблыкі, дулі, іншая садавіна.

Дзеля справядлівасці, з прыездам новых гаспадароў "сховішча" стала яшчэ большым. Паўсюль у некалькі паверхаў запакаваныя кардонныя скрынкі. Адных толькі кніг Алег прывёз больш за 5 тысяч (бадай, столькі ж пакінуў у Іркуцку), не кажучы пра рарытэты, здабытыя ў этнаграфічных экспедыцыях. Самы каштоўны – саламяная лялька, якую беларуская сям'я прывезла ў Сібір звыш 100 гадоў таму падчас аграрнай рэформы Сталыпіна. І вось праз векавое кола цацка вярнулася на радзіму.

Пасля навядзення парадку Алег Рудакоў збіраецца рэалізаваць амбітную задуму.

"Так склалася, што ў хаце, дзе я нарадзіўся, няма гаспадара. Брат і сястра маюць кватэры, у іх свае сем'і, і наш дом застаўся без догляду. Я мару не проста яго адрамантаваць, а зрабіць гэткую музей-майстэрню і назваць, як варыянт, "Сядзіба Рудаковых". Ці, магчыма, адкрыць аграсядзібу. Вось цяпер вычышчаем і знаходзім такія ўнікальныя экспанаты, што дух захоплівае. Тыя ж дзедавы збаны, чыгунная ступа драбіць крупы, куфар са скарбнічкамі. З радасцю вяртаюся на Бацькаўшчыну, думаю, нешта яшчэ ўчыню. Я ж яшчэ малады!" – выпраменьвае ён аптымізм.

Уладанні сапраўды дазваляюць разгарнуцца – гектар зямлі з выхадам да лесу, вялікі сад і нават уласная сажалка. За гады закінутасці тэрыторыя прыкметна здзічэла; як вынік, панадзіліся аб'ядаць маладыя дрэвы зайцы, следам падцягнуліся казулі, а за імі лісы. Ну, і суседзі, якія павылоўлівалі з сажалкі рудакоўскіх карасёў. Цяпер гаспадар поўны рашучасці акультурыць наваколле.

Ёсць дзе прыкласці руку і ў шматлікіх катухах, якія туляцца на панадворку: вызваліць з-пад друзу ў гаражы старэнькі "Масквіч", музеефікаваць скляпаны яшчэ бацькам трактарчык, прывесці да ладу студню і ганак. А яшчэ нават не пачалі абследаваць гумно і пуню!

Натуральна, выходзіць Алег і на гасцінец, каб аднавіць страчаныя сувязі з аднавяскоўцамі.

"Наладжваю стасункі. Наведаўся да цудоўнага дзядзькі Сяргея Казлова, ён тата маіх сяброў Валеркі і Ваські. З імі яшчэ не бачыліся, але прывітанне перадаў. Абмяняліся нумарамі тэлефонаў, сказаў, што вярнуўся, будзе весялей. Сяргей Мікалаевіч засмяяўся: "Ну, з табой не засумуеш. Памятаю, як тут шабуршэў!" Мяне сапраўды ўспрымалі за лідара. У нас не было інтарэсу да выпіўкі: займаліся спортам, я капітаніў у валейбольнай камандзе, меў свае сетку і мяч, арганізоўваў міжвясковыя чэмпіянаты. Купіў касетны магнітафон. Іншым разам пойдзем на танцы, дык калі я ёсць, будзе і дыскатэка, бо з "апаратам". А не – дык і няма, сумуюць".

### "Калі камуністы заганялі хутаран у калгас, дзед трымаўся да апошняга"

З роднымі Бяздзедавічамі ў Алега Рудакова непарыўна звязаныя першыя 17 гадоў біяграфіі. Цяпер яму 52. Жылі вялікай і тады яшчэ дружнай сям'ёй – бацькі, старэйшы брат, малодшая сястра. Хата ўмоўна падзеленая на "старую" і "новую". Першыя бярвёны паклаў дзед яшчэ ў 1930-я. Пазней бацька зрабіў прыбудову і веранду. Апошні пакойчык у 1980-м дапамагаў дабудоўваць Алег, спасцігаючы гэтак навуку цесляра.

"Дзеда я не застаў, як і бабулю, – расказвае ўнук. – Спачатку яны жылі на хутары, мелі вялікую гаспадарку. А як пачалася калектывізацыя, прыйшлі камуністы: давайце ў калгас. Дзед іх паслаў. Другі раз – тое самае. Нават калі трэці раз прыгразілі вывезці ў Сібір, не паддаўся і тады. Аднойчы ўсё ж прасачылі, як ён пайшоў у лес, сабралі брыгаду з набрыдзі – тыя раскідалі дах ды звезлі ў камуну. Урэшце давялося перасяляцца ў пасёлак, куды зганялі хутарскіх. Набыў зруб у суседнім Сенькаве, і вайну перажылі ўжо тут. Яго, дарэчы, не мабілізавалі, быў цяжка паранены ў Першую сусветную, цягнуў нагу".

Алег Рудакоў пераказаў мясцовую легенду, чаму вёска мае такую незвычайную назву. Паводле тутэйшых, вакол маёнтка Корсакаў былі пабудовы для парабкаў, якія трымалі ў парадку палацык, жывёлу, пасевы. І пан стараўся, каб усе былі маладыя, здаровыя, працаздольныя. Як толькі работнік старэў, асабліва не цырымоніліся – разлічвалі і выстаўлялі. Вось адсюль і пайшло: няма дзядоў, адны маладыя. Адпаведна, Бяздзедавічы...

Калі Алег канчаў школу, адкрывалася шмат шляхоў. Настаўнік гісторыі раіў гістфак Віцеб-

скага педінстытута: маўляў, з такой уедлівасцю ў прадмет там самае месца. Шчыравалі фізрук на пару з трэнерам. Паколькі хлопец прафесійна займаўся валейболам, агітавалі, што факультэт фізічнага выхавання ў Берасці дасць пуцёўку ў вялікі спорт. Калгасны аграном "спакушаў" новым трактарам і жыллём – яшчэ падлеткам хадзіў памочнікам камбайнера, працаваў на зернетаку. І быў ваенрук, які не сумняваўся, што ягоны "курсант" мае талент да вайсковай справы.

У выніку перамог юнацкі максімалізм, кажа Алег Рудакоў. Паступіў у вайсковую вучэльню інжынерных войскаў у Цюмені. З 1989-га цягам наступных 5 гадоў служыў афіцэрам, быў размеркаваны ў Іркуцк камандзірам узводу ракетнай часткі. Калі пачаў развальвацца Саюз, падаў рапарт, каб перавесціся на радзіму. Адмовілі на той падставе, што ў Беларусі масавыя скарачэнні, выводзяць ракетныя войскі, сваіх няма куды падзець.

А ў Сібіры, наадварот, быў дэфіцыт кадраў. Так і зрабіўся беларус Рудакоў спачатку расійскім афіцэрам, а пасля і грамадзянінам Расійскай Федэрацыі.

### "Спасляліся на адсутнасць ныркі і звольнілі "па абмежаваным стане", без пенсіі"

У першай палове 1990-х пачаліся праблемы са здароўем, перастала працаваць адна нырка. Лекары пераконвалі, што яе не было ад нараджэння, і на гэтай падставе звольнілі праз "абмежаваны стан здароўя без права пенсіі". Потым, праўда, высветлілася, што нырка ўсё ж была, але за час службы чамусьці "сапсавалася".

Вярнуцца дадому не далі эканамічныя прычыны. Грошы трымаў у банку, а той "згарэў" разам з усімі назапашваннямі. Давялося стварыць у Іркуцку сваю "малую Беларусь", паўжартам кажа Алег Рудакоў.

Атрымаў цывільную адукацыю, вучыўся адразу ў дзвюх іркуцкіх ВНУ. Скончыў эканамічны факультэт тэхнічнага ўніверсітэта і шэсць гадоў вучыўся на гістарычным факультэце дзяржаўнага ўніверсітэта. У гэты час захапіўся беларускай справай: шукаў у архівах звесткі пра добраахвотных і вымушаных перасяленцаў, наведваўся з этнаграфічнымі экспедыцыямі ў заснаваныя беларусамі вёскі Прыбайкалля, дакументаваў матэрыяльныя і культурныя скарбы, арганізоўваў святы ў аўтэнтычным стылі.

У 1996-м стварыў і наступныя 17 гадоў узначальваў Іркуцкае таварыства беларускай культуры імя Яна Чэрскага (ІТБК) – адну з самых актыўных у Расіі беларускіх суполак. У 2013-м добраахвотна перадаў кіраванне новаму актыву, спасылаючыся на тое, што нават "выбітнаму і вельмі разумнаму" доўга заседжвацца на пасадзе старшыні нельга, пачынаецца застой. А на наступны год і зусім выйшаў з ІТБК, бо колішнія аднадумцы жадалі ўжо весці справы па-свойму.

Каб не рабіць канфліктаў, Алег Рудакоў напісаў заяву. Следам за ім выйшаў амаль увесь склад моладзевага клуба "Крывічы" на чале з кіраўніцай Воляй Галанавай.

"Як ні стараўся, расколу пазбегнуць не здолеў, – дагэтуль перажывае ён. – Сабраліся разам, паразважалі. Вырашылі працягнуць культурна-асветніцкую працу ў межах "Крывічоў" – на карысць яднання беларусаў Іркуцкай вобласці. Хоць цяпер працаваць давялося ў канкурэнцыі з былымі паплечнікамі, якія засталіся ў ІТБК. Але зноў жа: была адна суполка, а стала дзве – і беларускіх спраў удвая паболела! Неўзабаве арганізацыя змяніла статут і стала "даросляй": Іркуцкае гарадское грамадскае аб'яднанне "Беларускі клуб "Крывічы". Склаўся моцны актыў, пачалі працаваць на беларушчыну".

### "Прашчуры адсюль з'ехалі, цяпер хоць праўнукі павінны пачаць вяртацца"

Кожны месяц "крывічане" арганізоўвалі старадаўнія беларускія святы, вандравалі па вёсках перасяленцаў, збіралі аўтэнтычны фальклор, праводзілі рэпетыцыі ансамбля песні і заняткі па танцах, кожную нядзелю ладзілі адкрытыя ўрокі беларускай мовы, запрацавалі секцыі рамёстваў і г. д. Іншым разам іркуцяне дзівіліся: няўжо гэта ўсё на аматарскіх асновах, без акладаў ды заробкаў?

Воля Галанава – адна з "рэкрутаваных" у беларускую справу. Менавіта Алег Рудакоў дапамог ёй усвядоміць сваю беларускасць, а з цягам часу дзяўчына раскапала і свае сапраўдныя карані. Кажа, што ад першага прыезду на гістарычную радзіму 10 гадоў таму ў рамках праграмы беларусаў замежжа на "Славянскім базары" займела запаветную мару – вярнуцца на зямлю продкаў. А цяпер яе ажыццявіла.

А як паставіліся да пераезду сямейнікі? Яе бацькі, два браты і сястра лічаць сябе рускімі. Воліна захапленне беларускай радаслоўнай доўгі час наогул не прымалі ўсур'ёз. Пакуль яна не паставіла ўсіх перад фактам.

"Як, куды, навошта? – рэакцыя была прыблізна такая, – успамінае Воля. – Тлумачу ім: нашыя прашчуры адсюль з'ехалі, цяпер хоць праўнукі павінны пачаць вяртацца. Дарэчы, да бешанковіцкай вёскі, адкуль маю прабабку Варвару звезьлі 8-гадовай дзяўчынкай, крыху больш за 100 кіламетраў. Таму я на сваёй радзіме, мне тут вельмі камфортна... Натуральна, у бацькоў быў страх. Гэта ж не ў суседні горад з'ехаць, гэта другі канец свету. Я не змагу наведваць іх у выходныя, прыязджаць на сямейныя святы. З усведамленнем гэтага няпроста змірыцца. Але я дарослы чалавек, сама выбіраю, як далей будаваць сваё жыццё".

Як псіхолаг Воля працягвае працаваць з кліентамі ў Расіі і за яе межамі дыстанцыйна – балазе сучасныя тэхналогіі дазваляюць гэта рабіць нават з беларускай вёскі. Не траціць сувязі і з сябрамі па "Крывічах" – бывае, нават даводзіцца праспяваць проста ў манітор.

### "Як толькі адчуеш свае карані, яны абавязкова паклічуць вярнуцца на радзіму"

Ці падштурхнула ўзбуйненне сям'і да хутчэйшага вяртання? Магчыма, пры іншым раскладзе Алег Рудакоў і далей знаходзіў бы прычыны, каб адтэрмінаваць радыкальны крок, пра які марыў апошнія 30 гадоў.

"Гэта здарылася б у любым выпадку, – катэгарычна кажа ён. – Вельмі доўга з Воляй разам шчыравалі на карысць беларускай культуры, нашае прыцягненне з кожным годам узмацнялася. Безумоўна, мы б пажаніліся. Але ўсё разам супала, і нейкія працэсы тым самым прыспешыліся. У Беларусь мяжа закрытая, Волю проста так не ўпусцілі б – дарэчы, і так не вельмі хацелі, бо не блізкая сваячка, ледзь заехалі. Давялося рыхтаваць паперы, што маці інвалід I групы і ў кепскім стане. То бок гэта не спантаннае рашэнне, усё ішло да такой развязкі. Асабліва калі вырашылі, што разам будзе весялей".

Яны былі не першымі іркуцкімі вяртанцамі. Яшчэ раней тут з'явіўся Рудакоў-малодшы. Пасля школы Аляксей, сын ад першага шлюбу, самастойна прыняў рашэнне пераехаць на бацькаву радзіму, паступіў у Полацкі дзяржаўны ўніверсітэт, быў адным з найлепшых на курсе. Яшчэ студэнтам пачаў працаваць у сферы праграмавання, зарабляў сабе на жыццё, наймаў кватэру. Пачынаў у Віцебску, цяпер на высокіх пазіцыях у кампаніі Ерам. Як кажа Алег, паколькі Лёша рэалізаваў мару пра Беларусь нават хутчэй за яго, гэта стала яшчэ большым стымулам да вяртання.

"Кожны, хто некалі з'ехаў, мусіць вярнуцца на радзіму, – перакананы ён. – Калі адчуваеш свае карані, яны цябе абавязкова паклічуць. У нас такая вялікая тэрыторыя, а пражывае крыху за 9 мільёнаў, зусім мала. Вунь колькі месца: прыязджайце, жывіце! Трэба аднаўляць наш край разам... Так, па сабе ведаю, наколькі складана адважыцца на такі крок. Але ў нейкі час прыходзіць разуменне: далей вагацца немагчыма. Таму ўсё абрэзаў, нічога ў Іркуцку не засталося, акрамя сяброў і імя – дагэтуль запрашаюць на пасяджэнні ў адміністрацыю, на прынагодныя святы. Я ўжо ім пішу, што ўсё, не магу... І наогул у мяне яшчэ ноч".

Дарэчы, да беларускіх начэй у Алега асаблівы піетэт. Кажа, знарок прачынаецца і выходзіць на вуліцу, каб атрымаць асалоду ад празрыстасці паветра і неба. Кажа, што ў Сібіры ночы чорныя як сажа, а ў Бяздзедавічах можна любавацца ўласным ценем ад месяца.

Цяпер у Алега і Волі будзённыя клопаты, найперш звязаныя з легалізацыяй. Паколькі абое маюць расійскія пашпарты, для пачатку трэба атрымаць дазвол на часовае пражыванне ў Беларусі. Гэта вымагае ездзіць у Полацк і Мінск, праадольваць розныя бюракратычныя працэдуры. Калі гэты этап застанецца ў мінулым, можна будзе заняцца працаўладкаваннем і вяртаннем да культурнай актыўнасці.

Таксама Алег Рудакоў збіраецца шчыльней засяродзіцца на навукова-даследчыцкай дзейнасці, паказваючы новыя беларускія старонкі ў асваенні сібірскіх рэгіёнаў.

svaboda.org



гутарка

# Таццяна і Кастусь Севярынцы: мы аптымісты, і мы дачакаемся сына!

Мы прыехалі ў госці да Таццяны і Кастуся Севярынцаў у Віцебск, каб паразмаўляць пра тое, адкуль яны бяруць сілы, што думаюць пра будучыню краіны і як выхоўваюць сваіх унукаў. Таццяна сустрэла нас смачным абедам і гарачай кавай, а Кастусь – вясёлымі гісторыямі пра сваю журналісцкую дзейнасць.




**Таццяна:** Цяпер нам цяжкавата, бо калі бачыш, як шалее ўлада, і не ведаеш, да якой ступені яна страціць розум, ды яшчэ пандэмія, то іншы раз стае пытанне: ці ўбачым сына? Я па жыцці звыкла звязвацца з Паўлам кожны дзень. У нас вельмі моцная эмацыйная сувязь. Мне дастаткова голас пачуць – я ўжо ведаю, у якім ён настроі і стане. У першым лісце, які Павел напісаў ужо з Валадаркі, ён выбачаўся, што не паразмаўляў са мною, калі я тэлефанавала напярэдадні затрымання. Ён вельмі спяшаўся туды, на Камароўку. Але мы аптымісты, і мы дачакаемся сына.

**Кастусь:** А я супакойваю сябе такім вось выслоўем: сёння яны нас, а заўтра мы іх.

**– Што надае вам моцы?**

**Кастусь:** Я ў гэтых варунках раблю тое, што ўмею рабіць. Напрыклад, магу зарыфмаваць некалькі радкоў, кожную нядзелю выстаўляю ў сацсетках чарговы вершык, прысвечаны бел-чырвона-беламу сцягу. І Паўлу я дасылаю гэтыя вершы, ён чытае іх сукамернікам.

**Таццяна:** Я кожны дзень раблю нейкі маленькі ўнёсак у агульную справу. Часцяком знаходжу сабе прыгоды, тады пачынаюцца суды…

**Кастусь:** Тады пачынаецца: “Прынясі мне тапкі, там трывожны чамаданчык мой стаіць, і не забудзь ваду”. А я ўсё гэта забываю, а потым бегаю, купляю. Заходжу ў РАУС, там гэтыя камеры... Я крычу: “Мамка, ты тут?” – а мне з адной з камер: “Тут, тут!” Ну, пасмяёмся – і ўсё. Вядома, у такім узросце заперці чалавека ў камеру, у адзіночку… Ну, яны спецыяльна гэта робяць.

**– Павел даволі рана вызначыў свае прынцыпы і заўсёды рашуча адстойваў іх. Вы яго заўсёды падтрымлівалі?**

**Таццяна:** Я заўсёды ведала, што ён не робіць нічога дрэннага, што ён адстойвае справядлівасць. А як інакш?

**Кастусь:** Па-першае, гэта наш сын, гэта мы выхавалі яго. Чалавек з сям’і выйшаў. Зараз згадваю, што сам ён крыху сумняваўся. Калі Паўла пасадзілі першы раз на Валадарку, ён яшчэ студэнтам быў, перажываў, як бацькі паставяцца. Не магу сказаць, што мы паставіліся спакойна, бо гэта было жудасна – на Валадарку, да бандытаў, да забойцаў! Таму складана было. Спачатку здавалася, што хутка ўсё пройдзе, наладзіцца.

**– Павел прыняў Хрыста падчас свайго першага арышту ў 1998 годзе. Ці можна сказаць, што ён выйшаў тады з Валадаркі іншым чалавекам?**

**Таццяна:** Ён вярнуўся вернікам. Для мяне гэта было настолькі нечакана! Сям’я ў нас была звычайная, свецкая. Мой хлопчык, рафінаваны такі інтэлігент, які заўсёды быў любоўю сясцёр, з якога бабулі пыл здзьмувалі, аказаўся ў невыносных умовах. Было страшэнна, што маё дзіця праз такое праходзіць. Цяпер я ўжо сама ведаю, што гэта такое. Тым не менш, не магу дачытаць яго кнігу “Каменнае сэрца”. Там ён апісвае жахі зняволення. Калі дачытаю, пэўна адразу памру.

**Кастусь:** Ён вярнуўся не іншым чалавекам. Павел проста ўпэўніўся ў тым, што яго прынцыпы слушныя, што ён змагаецца за дабро са злом, што ён на правільным шляху.

**– Вы калі-небудзь раілі Паўлу з’ехаць з краіны?**

**Кастусь:** Адразу, адназначна і, думаю, у два галасы: не!

У адным з маіх вершаў ёсць такія радкі:

*“Мне не трэба тое неба,*
*Дзе чужое сонца.*
*Мне б агеньчык,*
*мне б праменьчык*
*З роднага ваконца.*
*На святло і на цяпельца*
*Паімкнуся-мкнуся,*
*Бо да смерці маё сэрца*
*Разам з Беларуссю”.*

Вось гэта мой прынцып і прынцып майго сына.

**Таццяна:** Мы давалі яму выбар. Можа, недзе ў глыбіні, шкадуючы яго, гледзячы на тое, што адбываецца… Я б ведала, што мне так было б спакайней. Але мы былі ўпэўнены, што сын гэтага не зробіць ніколі.

**– Які з перыядаў зняволення сына стаў для вас самым цяжкім?**

**Таццяна:** Калі Пашу першы раз узялі, яшчэ ў 1998 годзе, я нават страціла прытомнасць. Але сёння ўлада проста выйшла з берагоў і вось гэтым брудам, гэтымі памыямі залівае ўсё вакол сябе.

**Кастусь:** Усе перыяды цяжкія, кожны па-свойму. Маральна яны Паўла не зломяць ніколі. Адзінае, чым яны могуць яму дасадзіць, – губіць здароўе. Гэта яны ўмеюць, і гэта невыносна.

Дарэчы, у 1998-м я быў вядомым журналістам. Сувязі ў мяне былі высокія. І вось набіраю начальніку ў пракуратуру, кажу: “Дапамажы!” А ён адказвае: “Лепш бы твой сын забіў каго-небудзь, увечары сядзеў бы дома”.

**– Атрымліваецца, што ўсё жыццё Павел змагаецца не з нейкай там уладай, а з канкрэтным чалавекам – Лукашэнкам.**

**Кастусь:** Не, ён не змагаецца з Лукашэнкам! Яго прынцып – не супраць Лукашэнкі, а за краіну. Ну, а Лукашэнка... Прыйдзе час, калі будуць казаць, што ён проста нейкі дзяржаўны дзеяч у часы Паўла Севярынца.

**– Ці прадчувалі вы, што гэтыя выбары прывядуць сына да чарговага зняволення?**

**Таццяна:** Вядома, прадчувалі. Толькі думалі – калі? Перад мітынгам на Камароўцы Паша быў тут, у Віцебску. Ён нават прасіў мяне, каб не ішла туды, таму што ведаў, чым гэта можа скончыцца. Калі яго забралі, я ведала дакладна, што Паўлу налічаць як мага больш парушэнняў, каб даваць раз за разам па пятнаццаць сутак. Але на той момант я нават не думала, што гэта будзе турма. Потым Пашу змясцілі ў карцар, тады ўжо я адчула, што пагроза ёсць. Калі скончыліся суткі, я прыехала ў Мінск, каб дапамагчы Вользе з Францішкам (жонка і сын Паўла), супчык Пашаў улюбёны зварыла… А ўвечары патэлілі следчы. Так мы даведаліся, што Паша яшчэ не хутка выйдзе… Вядома, крымінальную справу ўзбудзілі ні за што. Але народ так моцна ўзняўся, што было зразумела: Паўла, моцнага лідара, не выпусцяць. Інакш бы гісторыя ў нас была ўжо зусім іншая. Усіх тых людзей, у якіх ёсць лідарскія якасці, яны трымаюць у зняволенні, таму што супраць гэтых людзей, супраць духу свабоды і волі яны – ніхто, з усімі сваімі стрэльбамі, шчытамі, шаломамі…

**– Як часта да вас даходзяць лісты ад сына з Валадаркі, пра што ён піша?**

**Таццяна:** Цяпер нам прыйшоў сорак пяты ліст. Як мы разумеем, каля дзясятка нашых лістоў Паўлу недзе згубіліся. Я нястрыманая ў сваіх эмоцыях, я вельмі жадаю, каб гэты цэнзар, які вычытвае мае лісты, хоць

што-небудзь зразумеў. Аднойчы дзяўчынка даслала Паўлу малюнак з бел-чырвона-белым сцягам. Прыходзіць нам ліст ад Паўла з гэтым малюнкам, а там усё перакручана, іншыя колеры, нейкія свастыкі… Паша ў лісце пытаецца: "Мамачка, што гэта значыць?" Я ведаю, чыя дачушка гэты малюнак даслала, папрасіла арыгінал, і зразумела, што гэта цэнзар пашкодзіў малюнак. Ці мог разумны чалавек, які паважае сябе, такое зрабіць?

**Кастусь:** Павел піша, што ў дзень атрымлівае да сарака лістоў і ўсім імкнецца адказаць. Піша, што сядзіць у камеры-двойцы, што адмовіўся ад дачы паказанняў, што яму змянілі следчага. Дарэчы, ведаю, калі прыйшоў новы следчы, Паша заўважыў у яго крыжык на шыі і спытаў: "Вы што, верыце ў Бога?" – а той пачаў свідраваць яго поглядам. І Паша пачаў свідраваць яго поглядам. Сын кажа, што следчы так дваццаць секунд паглядзеў і адвёў вочы. А Павел заўсёды адмаўляецца ад дачы паказанняў і кожнаму следчаму кажа: "Ідзіце і пакайцеся, што вы робіце?"

**– Вольга, жонка Паўла, звяртаецца да вас па дапамогу?**

**Тацццяна:** Яна стараецца абыходзіцца сама, але мы звязваемся амаль штодня. Учора, напрыклад, размаўлялі. Волечка кажа, што верыць у лепшае, але рыхтуецца да горшага. Яна вельмі спадзявалася, што да новага года Паша выйдзе. Але побач яе сын, Францішак. Дзеткі заўсёды падтрымліваюць.

**– Ці атрымліваецца ў вас жыць не толькі пакутамі сына, але і знаходзіць моц для звычайнага жыцця, звычайных радасцяў?**

**Тацццяна:** Жыццё – яно такое. У нас сем унукаў. І акрамя Пашы ў нас дзве дачушкі – Ганна і Дашанька. Для мяне гэта такая радасць, калі ўнукі прыязджаюць. Да таго ж ёсць сяброўкі, з якімі можам сустрэцца і паразмаўляць. У нас цудоўная каманда БХД, ініцыятыва "Віцебск – горад наш!", мы шмат чаго дамагліся ў горадзе. Такая я натура, неспакойная. Цяжка дзень пражыць, калі ты, як той Мюнхгаўзен, нейкі подзвіг не здзейсніў, хоць бы маленькі!

**– Ці ёсць у вас адчуванне хуткай перамогі?**

**Тацццяна:** Трэба мець на ўвазе, што нас 26 гадоў катавалі, знішчалі і рыхтавалі па сутнасці да гэтага дня. Распавяду адну гісторыю. Мы вярталіся з чарговага суда, і адна жанчына зрабіла мне заўвагу: "Як ты можаш спакойна размаўляць з ахоўнікамі?" А я заходжу, вітаюся з імі, два пальцы паказваю… Яны ўжо мяне ведаюць, пашпарт не патрабуюць, пытаюцца, як мае справы. І вось я той жанчыне тлумачу, што, па-першае, яны не маюць ніякага дачынення да катаванняў. Гэта людзі, а з людзьмі трэба размаўляць так, як жадаеш, каб з табой размаўлялі. Жанчына пачала мяне пераконваць, што я буду той, якая дарye ўсім, калі мы пераможам. Гэта мяне моцна закранула. Кажу ёй: "Слухай, калі я стаяла ў пікетах яшчэ ўвосень 2019 года, адна пад бел-чырвона-белым сцягам, альбо нас стаяла дванаццаць чалавек на плошчы Перамогі, на вачах усіх гэтых ціхушнікаў, якія нас здымалі, чаму цябе не было побач?" Яна кажа, што прачнулася толькі 9 жніўня. І я адказала: "Дзякуючы таму, што ты прачнулася толькі 9 жніўня, мы жывем так, як жывем. Ты спрыяла злачынству, якое зараз адбываецца. Вось там царква, пакайся і тады ўжо нешта мне кажы, каб было справядліва".

Таму ўсе тыя людзі, якія прачнуліся толькі 9 жніўня, альбо тады, калі Бабарыка ці Ціханоўскі абвясцілі кампанію, – гэта цудоўна. Але вы павінны разумець, што гэта ўсё адбываецца таму, што вы так доўга спалі. А цяпер давайце разам думаць, ад кожнага з нас усё залежыць. Таму што шмат хто палез зноў у гэтую гнойную кучу. Палезлі, таму што баяцца. Учора я размаўляла з сястрой, яна распавяла мне пра знаёмых, якіх прымушалі падпісваць ліст ад прафсаюзаў. Я пытаю: "І беглі падпісваць?" Яна кажа: "А што ім рабіць?" Ну, калі яны падпісалі, то няхай ведаюць, што разам з тым падпісалі сабе і сваім дзецям прысуды. Таму прадчування вельмі хуткай перамогі, на жаль, у мяне няма.

**Кастусь:** Даваць прагнозы ў такіх варунках – няўдзячная справа. Калі б мне хто-небудзь у 1985 годзе сказаў, што СССР ляснецца, я б проста пасмяяўся. А ўсё здарылася за тры дні. Так і тут. Перамены абавязкова будуць.

**– Цяпер маладым людзям бывае цяжка, бо не заўсёды бацькі падтрымліваюць іх пазіцыю і прынцыповасць. Што б вы сказалі такім бацькам?**

**Тацццяна:** Ведаю такія гісторыі, яны вельмі балючыя! Я б нават не сказала, я б здзівілася, як можа вось гэтая пачвара быць даражэй за ўласнае дзіця? Гэта ж ваша крывінка! А тое – хто яно вам? Сваё дзіця паспрабуйце хаця б зразумець.

**Кастусь:** Тут я з Тацццянай на сто адсоткаў згодны. Наш пасыл адзіны: прыслухоўвайцеся да сваіх дзяцей, разумейце, любіце іх, верце ім, безаглядна верце! Ім жыць, гэта іх будучыня.

Ганна Ермаковіч, novychas.by

# Мікола Купава: Бел-чырвона-белы сцяг непадсудны, гэта прызнаны народам нацыянальны сімвал

Працяг са старонкі 3.

Ён падаў заяўку, і тады яшчэ саюзнае Міністэрства сувязі пагадзілася. Самае цікавае, што я паказаў Пагоню на фоне карты, якую склаў прафесар Пецярбургскага ўніверсітэта Яўхім Карскі. Гэта так званая карта "белорусского племени", дзе Смаленшчына і Браншчына прызнаны беларускімі. Канверт з Беларуссю ад Беластока да Смаленска мільённым накладам быў надрукаваны ў Пензе, і ніхто ў мяне не спытаўся, што там за карта намаляваная. А яна для нас вельмі важная, бо БНР была абвешчана якраз на аснове той карты. А ў 1991 годзе выдавецтва "Беларусь" замовіла мне паштоўку з нацыянальнымі гербам і сцягам. Потым былі заказы на маркі – таксама з нацыянальнай сімволікай…

**– За якую ўжо сёння, да рашэння Генеральнай пракуратуры, штрафуюць і кідаюць за краты. Напрыклад, 18-гадовая Сафія Малашэвіч, якая размалявала шчыты амапаўцаў нацыянальнымі колерамі, атрымала два гады калоніі.**

– І за што? Якую шкоду яна прычыніла дзяржаве? Тыя палоскі са шчытоў за пяць хвілін змылі. Так не павінна быць!

**– Ваш калега і сябра Яўген Кулік намаляваў партрэт Міколы Гусоўскага з... сябе. А ў вас падобнай спакусы пры стварэнні партрэтаў вялікіх князёў ВКЛ не ўзнікала?**

– Не, як кажуць, не ўдаўся тварам. А калі Яўген працаваў над Гусоўскім, то мы з сябрамі неаднойчы збіраліся ў яго майстэрні і абмяркоўвалі, як павінен выглядаць аўтар славутай "Песні пра зубра". Прыжыццёвых жа выяў не захавалася. І гэта мы сказалі Куліку: слухай, Яўген, тваё аблічча вельмі падыходзіць. Тады ж, да 500-годдзя Гусоўскага, выйшла яго паэма, а мы ў Саюзе мастакоў зрабілі шыкоўную выставу. Прыемна ўспомніць – гэта быў сапраўдны фурор!

**– Вы настолькі жылі айчыннай гісторыяй, што нават імёны сваім дзецям далі гістарычныя – Вітаўт і Рагнеда. Стаўшы дарослымі, яна за гэта бацьку не папракалі?**

– Вітаўт сказаў, што любіць сваё імя, Рагнеда трохі менш інфармацыі мела, але, калі я расказаў ёй пра полацкую князёўну Рагнеду, яна супакоілася. Памятаю, як Вітаўта не хацелі запісваць у загсе. Я разззлаваўся, узяў бланк і сам усё напісаў. З Рагнедай ужо было прасцей – ішоў 1992 год, і чыноўнікі вучыліся шанаваць гісторыю сваёй краіны.

**– Вы аздобілі каля 40 кніг, некаторыя з іх да гэтай пары перавыдаюцца з вашымі ілюстрацыямі – напрыклад, "Лебядзіны скіт" Уладзіміра Караткевіча ці "Судны дзень Скарыны" Міколы Арочкі. А ці ўдаецца вам супрацоўнічаць з дзяржвыдавецтвамі сёння?**

– Ужо гадоў дзесяць выдавецтвы да мяне не звяртаюцца. Што да прыгаданага вамі "Суднага дня Скарыны", то яго перавыдалі без майго ведама, парушыўшы аўтарскае права. Там якасць – ніжэйшая за нуль, гэта проста здзек з таго, што зрабіў мастак. Гэта, дарэчы, не адзінкавы выпадак. Месяцы два таму я пабачыў у краме хлеб пад назвай "Літоўскі", на ўпакоўцы – мая гравюра "Вільня". Выпякаюць яго на Ваўкавыскім хлебазаводзе. Дазволу ў мяне ніхто не пытаўся, фактычна, укралі мой твор.

**– Няхай бясплатна вас хлебам забяспечваюць! Ён хоць смачны?**

– Смачны, але ж так не робіцца. Няхай выкарыстоўваюць, я не супраць. Але няхай спачатку разлічацца. Я буду гэтага дамагацца.

**– Гэта, па-мойму, ужо не першы выпадак у вас?**

– Неяк у Гомелі выпусцілі гарэлку "Вітаўт" з маім партрэтам князя на бутэльцы. Тады я выйграў суд.

**– А завод у дасудовым парадку не прапаноўваў вам скрынь дзесяць гарэлкі бясплатна?**

– А навошта мне столькі? Паводле рашэння суда я атрымаў грашовую кампенсацыю.

**– Калі б вам было дазволена на сваё 75-годдзе атрымаць ад Бога падарунак, што б вы папрасілі?**

– Папрасіў бы, каб Беларусь стала свабоднай, сапраўды незалежнай і беларускамоўнай краінай і каб усе беларусы ёю даражылі. У саюзе з Расіяй незалежная Беларусь – гэта блеф. Масква заўжды будзе трымаць нас у кабале.

**– Дык гэта просьба для ўсяго народа. А для сябе асабіста?**

– Тое самае папрасіў бы. Гэта для мяне асабіста. І для ўсіх.

Міхась Скобла, "Народная Воля"

Друкуецца ў скароце. Поўная версія на zbsb.org

Пакіньце адрас сваёй пошты ў адмысловай форме
на галоўнай старонцы сайту zbsb.org,
каб чытаць штотыднёвую рассылку
найбольш важных навінаў
з жыцця беларускага замежжа
і Бацькаўшчыны.

навіны

# БЕЛАРУСЫ ЗАМЕЖЖА ПРЭЗЕНТАВАЛІ ДЭКЛАРАЦЫЮ САЛІДАРНАСЦІ

Дэкларацыя салідарнасці прэзентаваная на анлайн-канферэнцыі, арганізаванай супольнасцю "Беларусы замежжа". Удзельнікаў віталі экс-кандыдат у прэзідэнты Святлана Ціханоўская і шэраг палітыкаў Еўразвяза.




"Паўгода таму беларусы прагаласавалі за перамены. Былы прэзідэнт прайграў, але адмовіўся прыняць выбар народа і пачаў супраць яго тэрор. Гэта значыць, ён прайграў канчаткова: беларусы ніколі не прызнаюць уладу, якая выкарыстоўвае гвалт і тэрор", – заявіла Ціханоўская.

На яе думку, беларусы даказалі, што могуць самі вызначаць свой лёс. Ціханоўская заклікала падтрымаць тых, хто цяпер асабліва пакутуе ад рэпрэсій: рабочых, якія ўдзельнічаюць у забастоўках, урачоў, кнігавыдаўцоў, палітычных зняволеных, незалежных журналістаў, праваабаронцаў. Палітык заявіла пра неабходнасць санкцый у дачыненні да тых, хто нясе адказнасць за рэпрэсіі і фальсіфікацыю выбараў.

"Гэтым летам наш народ убачыў сваю сілу і паверыў у сябе. Зараз ён праходзіць цяжкае, але неабходнае выпрабаванне. Беларусы пішуць сваю гісторыю, часам слязьмі і крывёю. Але гэта наша гісторыя, і мы пішам яе самі. Я ўпэўненая, што гэта гісторыя перамогі", – заявіла экс-кандыдат у прэзідэнты.

Кожны дзень у еўрапейскай краіне Беларусі павялічваецца колькасць палітвязняў, умовы ўтрымання ў ізалятарах з'яўляюцца катаваннямі, сказаў экс-дыпламат, кіраўнік Нацыянальнага антыкрызіснага кіравання Павел Латушка.

"Мы чытаем навіны з Беларусі як ваенныя зводкі, – сказаў ён. – І мы гаворым не пра серыйных маньякаў. Гэта адбываецца з людзьмі, якія адстойваюць сваё базавае права – права на свабоду".

Пры гэтым, паводле слоў Латушкі, беспакараным застаецца бізнес, які называюць "кашалькамі рэжыму", і чыноўнікі, якія ўзмацняюць рэпрэсіі. "Неабходна ўводзіць рэальныя жорсткія персанальныя санкцыі", – заявіў Латушка і падкрэсліў, што ў цэнтры Еўропы будуюць канцлагер.

Палітык заклікаў пазбягаць любой легітымізацыі рэжыму, а таксама заклікаў да яго палітычнай ізаляцыі і салідарнасці з беларусамі.

"Свабода – гэта не проста словы, а штодзённая цяжкая бітва. Мы падтрымалі смелую барацьбу беларусаў, якія выступаюць у падтрымку сваіх правоў для таго, каб вызначыць лёс сваёй Радзімы, і ў якіх тры простыя патрабаванні: свабодныя выбары, спыненне гвалту і вызваленне палітвязняў", – заявіла прэм'ер-міністр Літвы Інгрыда Шымоніце.

Еўрасаюз лічыць беларускіх грамадзян часткай еўрапейскай супольнасці, адзначыў дэпутат Еўрапарламента ад Аўстрыі Лукас Мандль. Ён падкрэсліў, што грамадзяне патрабуюць свабодных і сумленных выбараў у самыя кароткія тэрміны, вызвалення палітвязняў, якіх не можа быць у сучаснай Еўропе.

Расія – гэта не толькі Крэмль, не толькі Уладзімір Пуцін, але яшчэ і мільёны грамадзян, якія змагаюцца за свабоду сваёй краіны, заявіў апазіцыйны расійскі палітык Уладзімір Рыжкоў. "Я веру, што гістарычнае развіццё непазбежна прывядзе да дэмакратычных змен і ў Расіі, і ў Беларусі – дзве нашы краіны вернуцца на еўрапейскі шлях развіцця", – сказаў ён.

На завяршэнне канферэнцыі была прэзентаваная Дэкларацыя салідарнасці.

"Мы захапляемся людзьмі ў Беларусі, якія поўныя рашучасці мірна адстойваць свае правы, выступаюць супраць фальсіфікацыі вынікаў выбараў, супраць гвалту і рэпрэсій. Мы асабліва цэнім актыўны ўдзел беларускіх жанчын, агульную ўстойлівасць народа Беларусі, яго прыхільнасць правам чалавека, дэмакратыі і вяршэнству закона", – сказана ў дэкларацыі.

Аўтары дакумента асуджаюць рэпрэсіі з боку сілавікоў. Яны заклікаюць да вызвалення палітычных зняволеных і затрыманых па палітычных матывах, спынення гвалту і пераследу мірных дэманстрантаў, дыялогу для перамоў аб мірнай перадачы ўлады і выхаду з крызісу пры пасрэдніцтве АБСЕ, адрасных санкцый, міжнароднага расследавання парушэнняў правоў чалавека і аднаўлення асноўных правоў і свабод у краіне, эканамічнай падтрымкі дэмакратычнай Беларусі.

**"Беларускае Радыё Рацыя" паводле belapan.by**

## Беларускі каляндар памятных дат на сакавік 2021 года

**2 сакавіка**
- 125 гадоў таму, у 1896-м, нарадзіўся Станіслаў Глякоўскі, грамадска-культурны дзеяч. Памёр у 1941-м.

**4 сакавіка**
- 110 гадоў таму, у 1911-м, нарадзіўся Васіль Стома, пісьменнік, дзеяч эміграцыі ў ЗША. Памёр у 1992-м.
- 65 гадоў таму, у 1956-м, у Беластоку выйшаў першы нумар газеты „Ніва", тыднёвіка беларусаў у Польшчы.

**5 сакавіка**
- 125 гадоў таму, у 1896-м, нарадзіўся Кандрат Крапіва (сапр. Кандрат Атраховіч), драматург, паэт. Памёр у 1991-м.

**7 сакавіка**
- 90 гадоў таму, у 1931-м, памёр Павел Дзямідовіч, этнограф.

**10 сакавіка**
- 240 гадоў таму, у 1781-м, памёр Міхаіл Карыцкі, паэт, грамадскі дзеяч.

**11 сакавіка**
- 110 гадоў таму, у 1911-м, нарадзіўся Леў Гарошка, гісторык, дзеяч эміграцыі ў Францыі і Вялікабрытаніі. Памёр у 1977-м.
- 80 гадоў таму, у 1941-м, загінуў Аляксандр Уласаў, грамадска-культурны дзеяч, выдавец.

**12 сакавіка**
- 170 гадоў таму, у 1851-м, памёр Ян Баршчэўскі, пісьменнік, адзін з пачынальнікаў новай беларускай літаратуры.

**17 сакавіка**
- 70 гадоў таму, у 1951-м, памёр Альберт Паўловіч, паэт-гумарыст, драматург.

**19 сакавіка**
- 100 гадоў таму нарадзіўся Язэп Юхо, юрыст, гісторык права. Памёр у 2004-м.

**20 сакавіка**
- 45 гадоў таму, у 1976-м, памёр Уладзімір Дубоўка, паэт.
- 25 гадоў таму, у 1996-м, памёр Яраслаў Пархута, пісьменнік, краязнавец.

**22 сакавіка**
- 235 гадоў таму, у 1786-м, нарадзіўся Яўхім Лялевель, гісторык, ідэолаг паўстання 1830–1831 гг. Памёр у 1861-м.

**26 сакавіка**
- 125 гадоў таму, у 1896-м, нарадзіўся Казімір Кулак, грамадска-рэлігійны дзеяч. Памёр у 1989-м.

**27 сакавіка**
- 170 гадоў таму, у 1851-м, нарадзіўся Аляксей Сапуноў, археограф. Памёр у 1924-м.

**28 сакавіка**
- 135 гадоў таму, у 1886-м, памёр Уладзіслаў Борзабагаты, лекар, мемуарыст, адзін з кіраўнікоў паўстання 1863–1864 гг.

**Беларусы ў свеце**
№ 2 (225), люты 2021

Інфармацыйны бюлетэнь
МГА "ЗБС "Бацькаўшчына"

Распаўсюджваецца на правах унутранай дакументацыі.
Меркаванні аўтараў могуць не супадаць з думкай рэдакцыі.

Падрыхтоўка матэрыялаў і вёрстка – С. Кандрацэнка
Адказныя за нумар – Н. Шыдлоўская, А. Макоўская
Наклад 250 асобнікаў

Адрас рэдакцыі:
вул. Кузьмы Чорнага, 31, офіс 906
г. Мінск 220012, Рэспубліка Беларусь
zbsb.org e-mail: zbsb.minsk@gmail.com
тэл./факс (+375 17) 357-70-27